


ІРЫНА
БАГДАНОВІЧ

# ДУША ЛІСТАПАДУ

*Вершы, пераклады*

Мінск, «Кнігазбор», 2012

## Кірмаш трубадураў

На кірмашы трубадураў
шыку і бляску нямала,
тропаў ды іншых фігураў,
слоў, пераплеценых дбала.

Зорных узораў натхнення,
чынных прычын для кахання,
згубы, самоты, збавення,
пыхі, трыумфу, змагання...

Паміж тых яркіх прылаўкаў
лёгка, бы ў лёхах, зблудзіцца,
між штукароў і штукарках
забаўкай, зброяй зманіцца...

Ходзяць цікаўныя людзі
па кірмашы тым, шукаюць:
хтосьці свядоцтваў аб цудзе,
іншыя праўды чакаюць.

Выстаўлю тут самаробны
свой светамір, бо мне рупіць —
можа, дзівак, мне падобны,
згледзіць яго ў кутку й купіць?..

# Трубадур у пошуку свабоды, або Кароткі канспект паэтыкі

## Верлібр (Тэорыя)

верлібр
свабодны верш
твае «вярыгі»
нібы па маразах
павеў адлігі

нібыта крышталю
суровая структура
цякучасць набыла
ці песня трубадура
прамоўлена
рэчытатывам

дзівам
верлібр
ты выглядацьмеш
у паэзіі
суладдзя

нібыта
дасканалы
Бога верш
у падрадковым
перакладзе

## Верлібр (Хрэстаматыя)

### *хворая зорка*

прастыла зорка
ў холадзе касмічным
хто зорку вылечыць
ад той прастуды
хіба паэта позірк
у нябёсы

### *ласкава*

у душы так ласкава-ласкава
як быццам прытулілася да Бога
або Бог прытуліўся да мяне

### *сустрэча*

калі сустрэчу прызначае Бог
няма чаго пярэчыць уцякаць
як быццам уцячэш сам ад сябе

### *каханне*

мастак малюе неба і траву
душу травы
і тайную размову
яе з туманам зманным
і трава
спатольна туліцца
ўману туману

і шэпча
закахальна
ка... ха... ха...
зліваючыся з небам
калыхальна

### ***малюнак***

цалуе пэндзаль
шэрань палатна
каб удыхнуць
бязмежны свет
фантазій
святло жывое
снегу і галін
вільготны дотык
колераў зліццё
таемны шэпт
зімовага малюнка
на міг уяўніў
тайну перамоў
халста зафарбаванага
і пэндзля

### ***раман з пейзажам***

млечнасць туману
шэрань сутоння
белыя капелюшы
дахаў

тонкая галінка
яблыні

апранутая снежным
каўняром

нібы заснулая
князёўна
ў сярэдзіне
зімовага пейзажу

## *рыса*

светамір перакуліўся
згубіў правільнасць
памераў і прапорцый

у ім перамяшаўся
бляск зорак
і адлюстроўе ліхтароў у шыбах

светамір
глядзіць на мяне
закаханымі вачыма

а я шукаю ў ім хаця б адну
простую і правільную рысу
за якую магла б учапіцца

каб не ўпасці ў зманлівы вэрхал
перакуленага
светамірнага бляску

у снежным футарале
галінка яблыні
падае руку

## ***абед***

верабей
сядзіць на тратуары
заўзята дзяўбе
скарынку
кінутую прахожым
сумеўся
іду ж проста на яго
не турбуйся
малы браце
найважнейшая зараз
твая трапеза
збочваю хуценька
ласуйся

## ***Вавілон***

як нам даводзіў
мудры Аўгусцін
ёсць горад Божы

і зямны
грахоўны
ад Каіна і ад Патопа

да хцівасці
цяперашніх
мацарстваў

нячэсцівых трыумф
штораз будуе
новы Вавілон

але ж ёсць горад Божы
для прагных
Праўд Святых

сваю цагліну
ўпарта я нясу
але куды

хто мне падкажа
у цемры дзён
і слодычы спакус

Дзіця што спіць
на сенку
стане Хлебам

### ***ага***
### ***(урок беларускай мовы 1)***

знайшлося нарэшце
слова маё дарагое
АГА
згубілася
ў звыклым суседскім
*daканні* ды *таканні*
у адыходным
ад сэнсу
*але*
дзякую табе
добры мудры
дзядзечка Насовіч
за тое
што ў тваім Слоўніку
толькі гэтае слова

АГА
выяўляе нашу
беларускую
сцвярджальнасць

### ***светамір***

светамір
падышоў
да майго ложка

абдарыў
пацалункам
свята і святла

пяшчотнай даланёю
напісаў на маім целе
КАХАЮ

прачнулася
хто ён быў
анёл

або прамень
толькі што абуджанага
сонца

### ***імя***

ён прыходзіў
да мяне
пад рознымі
імёнамі

як каханак ночы
як гаспадар дню
як спакуснік спакою
як цярэбнік цярпенняў

як нахабнік натхнення
як настаўнік настрою
як пан майго лёсу

нарэшце ўведала
яго сапраўднае імя
*светамір...*

## ***васпан (урок беларускай мовы 2)***

згубілася шляхетнае слова
ззімела ў вятрах пралетарскіх
на раздарожжах падзей
і перайначванняў ладу

выкінулі яго
як з'едзены моллю кунтуш
як іржою пабітую
шаблю

на сметнік
разам з «панамі»
ды іхнымі
гербамі

пераможанае «таварышам»
а потым «мужчынам»

і «жэншчынай»
яно сумуе там

дзе годнасць і самавітасць
аддзеленыя ад лёсу народа
перасохлай пустыняй
цяперашняга нямоўя

гукаю ў паветра
*ВАСПА-А-А-Н...*
рэха прыносіць
*ВАСПА-А-А-НІ...*

# Развага трубадура

хаця верлібр
прыемна хаатычны
як сын свабоды
арыстакратычны

звярнуся зноў
да звыклага радка
пакуль яго
высноўвае рука

хоць гэта не сучасна
не «гламурна»
затое традыцыйна
трубадурна

## Краты сінтаксісу (або Апраўданне футурызму)

Шліфуе думку дасканала
і тэкст парадкуе нямала,
пералічае і тлумачыць,
калі патрэбна, паўзу значыць,
падскочыць кверху ў захапленні,
нямее ў шчырым задзіўленні,
кручком сагнуўшыся, паклон дасць
і запрашае у бясконцасць...
Паэту ж сінтаксіс — як краты!..
Ён слоў паток шануе чысты!
Прад коскакроп'ем вінаваты
да скону свету футурысты!
Яны змаглі няволю коскі,
радкоў прывычныя палоскі
зрабілі лесвіцай шурпатай,
разбілі сінтаксісу краты,
дзівілі свет дзівацтвам рухаў,
гульнёю слоў і рэхам гукаў,
лічылі рыфму ў вершы стратнай,
а волю творцы — *ўсёпачатнай*!

# Вінагроддзя кахання

* * *

Вінагроздзевы час —
ураджайны, даспелы, святочны...
Вінагронкай смяюся,
удзячная сонцу за цуд
даспяваць на лазе,
каб паўсюдна развеяўся змрочны
непагодны настрой
і зляканае відма пакут...

* * *

Вінагроздзя кахання
расталі ў віне,
час імклівіць, як водарны
шоўк шарданэ...
Заплятаецца зрок
у галінкі, ў туман,
у чарот, у аблокі,
у лісце, у зман...

* * *

Узнімем іскрыстыя шклянкі
з чароўным напоем,
віваты ўрачыста прамовім,
панове ліцвіны,
на славу айчыны,
якую шляхетна адновім,
свае і чужыя адкупім
грахі і правіны...

* * *

Гнецца ў плоднасці спелай
дарунак-лаза,
гаспадар-вінаградар
агледзіны робіць,
ззяе бляскам чароўным
на гронцы раса,
каб яшчэ больш
яе дасканаласць аздобіць...

* * *

Вінагроздзевай гронкай
пачулася
ў клопаце Пана;
жыватворчыя сокі струменяць —
зямлі і нябёсаў крыніцы;
набрыняць імі ўдосталь,

напіцца,
душой наталіцца,
ажыўляльным напоем
барвовець
з напоўненых шклянак...

* * *

Жарсна гуллівая кроў
адгукаецца,
рэшта штодзённых акоў
разбіваецца,
ўміг разумееш свой шлях —
*адзінокі* і марны,
і той *адзіны,*
пачаты з лазы,
Богадарны...

* * *

*«In vino veritas!», —*
гудзе
гасцёўня, поўная
узлеглых...
А дзе яшчэ віно, а дзе
уцеха сэрцаў зарунелых?
І цуд здараецца ізноў,
каб Ісціна была спазнана:
вада, налітая з мяхоў,
віном стаецца з ласкі Пана...

* * *

Лаза любові і ласкі,
таемнасць чары,
спазнаныя абавязкі,
аскепкі мары,
віно, што стае крывёю,
глыток яднання,
душа, што стае раллёю
для пакаяння,
часіна, што паліць болем,
шляхі цярпення,
зляканне ўзысці куколлем
сярод камення...

## **Ведзьмакі**
### *(з гарадскога летапісу XVII стагоддзя)*

Ратуша...
Рання зляканне.
Пляц ад натоўпу вірыць.
Сёння, як кажа паданне,
Будуць вядзьмарку паліць.

Чорныя косы, як змеі,
Зблытала ночы рука.
Цешаць нутро ліхадзеі,
Плача душа ведзьмака.

Ён ёй нашэптваў у гаю
Словы замовы дзядоў
Разам з прызнаннем: «Кахаю!»,
Сплеценым з траў-чаратоў...

Скачуць агністыя пеўні —
Вырак ім той выробляць!
Лівень лінуў неспадзеўна
З воч ведзьмаковых на пляц.

Неба ж ніводная хмарка
Ў гэты не засціла міг.
Ахнула чэлядзь: вядзьмарка
Цэла, а кат яе знік!..

Доўга пра цуда казалі,
Памяць аб ім берaглі.
Больш ведзьмакоў не чапалі
На беларускай зямлі.

# Новае імя

Болей не заві мяне
*каханаю,*
слоў фальшывых
не дары мне,
*рыцар...*

Ёсць краса,
яшчэ дагэтуль
не спазнаная,
ў новым імені маім —
*пані-сястрыца...*

* * *

А смачна ж есці
ежу са слязьмі
жаночай долі,
звітай у цярпенне...

Ратуе бэз...
І радуе язмін...
А ў садзе яблынь —
цэгла ды каменне...

* * *

Наплакацца ўдосталь
за ўсё і за ўсіх,
прасіць прабачэння
правінаў у Бога...

Удзячна ўзгадаць
расцярушаны міг
цярплівага шчасця
зямнога...

* * *

Ужо даўно ўсё сказана,
прабачана...
І больш няма
ні слоў,
ні крыўд...

Адно —
пачуццяў высахлых
ламачча
арнаментуе
сонны краявід...

Шукае сэрца,
кінутае ў сталасць,
у друзе тым —
пупышкі
набрыняласць.

## На матыў «Оды да маладосці» Адама Міцкевіча

* * *

Дар Маладосці – вечны дар
і прамінальны...
Але заўсёды будзе ён
прысутны
з тымі, каму агенчык дадзены
Кахальны...
Й не бойся з небам
і зямлёй раства,
вандроўнік
у краіну хараства...
Ты гэтым атрымаеш
дух магутны...

* * *

Шануйце Маладосць як вечны дар,
Яна – гарантка творчага імпэту!
Не вораг ёй няўмольны каляндар –
Ён толькі больш высокай робіць мэту...

* * *

На сонечнай светлай дарозе іскрыстай
Хай збудзецца ўзлёт Маладосці бясконцы...
Ён – класікаў погляд ахоўна-ўрачысты
І келіх кахання – без донца,
Без донца...

* * *

Хай цёмных духаў тло
сцярэбіцца дазвання
ліхтарнямі Сяброўства
і Кахання!..
А Маладосці вечны Дар
хай закалыша
Дух Беларускі,
што люляецца
на Ўзвышшы...

# У архіве

*Да юбілею Беларускага*
*дзяржаўнага архіва-музея*
*літаратуры і мастацтва*

Каго гукаю з даўняй даўніны?
Па кім сумую, да каго імкнуся?
Я з вамі тут, без лоску і маны, —
У самым сэрцы любай Беларусі.

Прадзецца час! Аркушык пад рукой —
Аўтограф ўнебаўзятага Паэта —
Перада мной не пылам, а ракой,
Што мне ў душу ўплывае запаветам.

Гляджу на літар бісерны суплёт,
Чытаю лёс... То плачу, то смяюся.
Адзін лісток — як сведка, што народ
Не знік, не ўпаў, не змёр на Беларусі.

Бо ў гэты Скарб — архіўнае жытло —
Уцелавіўся дух Сыноў Айчыны:
Узвышаўцаў узлётнае крыло,
Маладнякоўцаў творчыя пачыны...

Дум трапятанне, рукапіс жывы,
На ім натхнення Боская пячатка.
Ад тых лісткоў не ўзняць мне галавы!
Фонд, вопіс, справа:
ўсё ізноў спачатку.

*4.06.2010*

## У Завоссі

Над родным Краем — шэлест ветру,
Трымціць лістота, і, здаецца, —
Чуваць, як б'ецца ў яе нетрах
Адама рыцарскае сэрца.

Пульсуе дух яго натхнення
Па-над усім тут: полем, гаем,
Па-над фальваркам — як карэннем,
Якім ў Айчыну мы ўрастаем!

Яго Любоў нас паяднала
І цэлебруецца, як Меса...
Любоў!.. Для прыйсця яе стала
Завоссе — Брамаю Нябеснай...

## **Жывом і будам!**

*Аляксею Каўку*

У галаве — апошнясць думкі,
А ў кашальку — астатні грош...
Жыццё згарнула пачастункі,
А ты чакаеш і — *жывош*!

І Богу дзячыш за імгненні
Спазнаць трыумф, спазнаць адчай...
Кіруюць сэрцам летуценні
І шэпчуць небу «выбачай»...

І выпраменьвае не скаргу,
Не закарэлую тугу
Душа на лёсу гаспадарку,
А толькі — *буду і магу*!

## **Калядныя паштоўкі**

*Галіне Тварановіч*
*і Вользе Ляшчынскай*

Мае святыя светлыя сябры
Такія сатварылі мне Каляды!
Змарнелы, хворы Бог ва мне аджыў,
Такі шчаслівы гэтым і так рады,

Што крылы распраменіла душа
І хоча быць гняздом усяму свету!
І хто б там што благое ні сцвярджаў –
Нішто не пераможа *Радасць* гэту!

# На коліках*

*(спартыўна-лінгвістычны эцюд са зноскамі)*

Я на *коліках* лячу
Па асфальце шэрым проста!
Зіхаціць свет уваччу,
І нябёс блакітных ростань

Расхінае свой абсяг,
Як палац высокі й шчасны,
Рух мой зараз — гэта знак,
Што настрой мой проста класны!

Малады імклівы лёт
Растрасе гадоў валізку...
Я не ведаю гаркот,
Толькі неба — блізка-блізка!..

Для мяне вы, *колікі***,
Як жыцця сымболікі!

*2006*

---

* *Колікі* — ад слова *кола*
і не псуюць айчынны лексікон,
бо *ролікі* сказаць — пры чым тут *роля*?
А *колікі* прасуюць стадыён!

** А яшчэ я прызнацца тут мушу,
хто *лінгвісты* былі адмысловыя:
слова *колікі* вынайшлі трохгадовыя
мае ўнукі — *Ян і Кіруша.*

# Дарунак

Пярсцёнак з ракаўкай дзівосна пакручастай
Уздзела на руку і цешуся з яго,
Дарунка нечаканага твайго,
Пяшчотаю сагрэтага нячастай.

У ракавінцы той, загадкава блішчастай,
Пясчынак прыбярэжных пераліў
Памножыўся на хваль марскіх прыліў
І стаў тады апраткаю прыўкраснай.

Ён кліча да натхнення думкі, сэрца,
Зліліся каб з пярлінак таямніцай
І здолелі радкамі адрадзіцца
Ці гукамі задумлівага скерца.

Так пыл штодзённы, мітусня і марнасць,
Нібы малюскі, росцяць цудаў дарнасць...
Зіхціць на пальчыку самотна і ласкава
Дарунак майго пана Станіслава.

## Снапок Дануты Бічэль

У снапочку Дануты
Каласок да каласка
Дасканала акуты
Прастатой хараства,

Прастатою крынічкі,
Дзьмухаўцоў на двары,
Плёнам яблыні-дзічкі,
Што спеліць сонца дары.

Шчодрыць Божую ласку
Яна ўшыркі і ўздоўж,
Са снапом тым не ў казку —
Да нябёс басанож!

Бог, Айчына, самота —
Як заплечнік і кій...
І блакіту яснота
Ад вякоў — на вякі.

Ёй Максімава зорка
Асвятляе паход,
А Ларыса і Зоська
Крыл парадкуюць лёт.

І Купалам сны снуты
Ткуць ёй той паясок,
Якім пані Данута
Свой звівае снапок.

# Літоўскі парасон
## *(Праўдзівае здарэнне паводле візіту ў амбасаду)*

*Эгле Норвайшэне*

Візіт мой важны
і, бясспрэчна, міжнародны,
А тут пачаўся дождж,
і не лагодны!
Ну як жа будзе зараз vip-персона
У гэткі дождж ісці без парасона?
Народ літоўскі, братні,
у асобе Эгле,
Не даў прамокнуць
нашае нягегле.
Знайшоўся парасон у амбасадзе
З драўлянай ручкаю
і спіцамі ў абкладзе
Такіх маленькіх запінак драўляных,
А верх — сінюткім дахам раскрыляны.
Ну проста неба пад нябёсамі, няйначай!
Так вырашыўся візіцёркі лёс бядачы.
Іду, а дождж вакол мяне сцякае,
Аднак мяне ні кропляй не чапае.
На парасоне ж надпіс, як на доме:
Letuvos Ambasados!
І, пардон, мне
Ішлося ўсмак,
хоць дождж ліў не на жарты,
Пад купалам такой паважнай варты!

*17.06.2009*

# Касцёл святога Барталамея ўВільні

*Славаміру*

Восень. Вільня. Кастрычнік. Гараць
Кармазынам і дрэвы, і сцежкі...
Развітаюся з ім, як сястра,
Выпраўляючы к ф'ёрдам нарвежскім.
Спадарожныя хмаркі плывуць,
Як вандроўцы з айчыны ў айчыну...
Хай анёлы яго сцерагуць,
Дзе ні ўзлёту няма, ні спачыну.
Золь краіны, дзе думка і верш
У абдымках вятроў і марозу...
Вершнік вернецца ў Вільню найперш
Лабірынтам загадкавым лёсу.
Дык згадайма на жорсткай раллі,
Кожны крочачы ўласным напрамкам,
Залацістую стужку Вяллі
І касцёл невялічкі за брамкай.

*Вільня 13.10.2008*

# Сармацкі бурштын

Бурштын пад нагамі, бурштын у нябёсах —
Кастрычнік у Вільні бурштынава-ўзнёслы.
Ўся вуліца ззяе, мяняе адценні:
Зялёны, каньячны, як мёд, летуценны.
Бурштын каралеўскі, драбнюткі, вялізны,
Як самая сутнасць, як вочы айчызны,
Як водар сукцінісу хмельны, ўсясільны,
Што сцішана стоены ў келіху Вільні.
Я ж, даўніх сарматаў нягеглы патомак,
Сабе выбіраю па густу пярсцёнак —
Някідкі, мядова настоены, стыльны,
Як крышачку восені, крышачку Вільні,
Як дар дарагі, што ад мора, ад мары,
Ад пырскаў кахання Зыгмунда й Барбары.

*Вільня 15.10.2008*

# Спатканне з Максімам

Максім мяне кліча,
ну як я магу не пайсці
на тое спатканне
у «хатцы», на вулцы Талстога?!
Нязнаную частку сябе
там раптоўна знайсці
і чуцца як дома
і ў небе высокім з парога.

Гнятуць абавязкі,
дакучна прыземлены быт,
палон мітусні
і жаданне кудысьці імкнуцца...
Мой дзіўны занятак —
любіць правякоў каларыт,
і зрокам, і сэрцам, і словам
да іх дакрануцца.

Цяперашні час, хоць складаны,
ўсё ж моцна спрасціў
наш дух і ў душы
ідэалаў высокіх апратку...
Максім мяне кліча,
ну як я магу не пайсці
туды, дзе любоў і цяпло, —
ў «Беларускую хатку»?!

## Беларуская хатка

*Філіялу Літаратурнага*
*музея Максіма Багдановіча*
*і яго загадчыцам Таццяне*
*і Кацярыне*

Тут утульна так і гасподна,
Да анёльскай сядзібы падобна,
Тут заўсёды — святая гасціна
Ля газніцы Максіма...

*

Хай шчодрацца ў «хатцы»
Пачуцці і думкі,
Батлеечных лялек
Гучаць пацалункі,
І рыпне маснічка
У сцішанні тым:
Анёлак пратупаў
Ці, можа, Максім?
Хто гэта пабачыць,
Хто гэта пачуе,
Таго назаўжды
Беларусь зачаруе.

# Ружанец Магдалены Радзівіл

Яна любіла падарожнічаць і чытаць, але найлепш ёй падабалася вязанне каронак, у чым выказвала нямала мастацкага таленту.

*Г. Піхура*

Яснавяльможная Пані,
Шчырым паклонам вітаем!
Вы адраджэнскія ранні
Годна ўзвясцілі над Краем.

Дыхаў тут сівер сурова,
Плакалі ўзвышшы і долы,
Вы ж з беларускаю мовай
Школы злучалі й касцёлы.

Лебедзь быў знакам на кнігах —
Вашым для іх блаславеннем,
І ў маразах, і ў адлігах
Ён для нашчадкаў — натхненнем.

Цуд ружанцовых малітваў
За Беларусь Вы спляталі,
Цішачы горыч па бітвах,
Яснавяльможная Пані!..

## Чужая дудка

Мы пасланыя ў свет для Красы і Любові
Праз цярпенні нядолі й пакут.
Нашанівілі Боскую праўду — у Слове,
Адзяржавілі родны свой кут.

Толькі шлюбам яшчэ не пабраліся з мовай —
Ад Скарыны святой і жывой,
Не зважаючы ў чыннасці дзён паспяховай,
Што ў палоне апраткі чужой.

Багушэвіч нас клікаў з нябыту, няслаўя,
Каб «не ўмёрлі», жывымі былі!
Ды «дзвюхмоўе», як джала, як сімвал бяспраўя,
Зноў пануе на нашай зямлі.

Сніў Купала прароча народную долю
І ад Слова выводзіў яе —
Бо ніколі пад дудку чужую, ніколі
Беларус не пазнае сябе!

# Сейбіту вечнага

*Генадзю Васільевічу*
*Кісялёву*

Ад Вечных Сейбітаў красы
Вы ў Спадчыну ўзялі адважна
Раллю Айчыны й каласы,
Што пад сярпы йшлі несярмяжна...
Дый плён руплівы нашых ніў
Усходзіў – спёка ці залева –
І Шлях у Неба церабіў
Высокім Радаводным Дрэвам...
Касьбу ж і Жатву тут вялі
Ва ўсе часіны быццам Бітву...
Вятры суровыя гулі,
Злучалі Песню і Малітву...

*28.03.2006*

## Перапляценні

Паэтаў сум, згрызоты і пакуты
Прымае бездакорліва папера.
Жыццё камусьці — кубачак атруты,
Камусьці шлях — любоў, надзея, вера.
У тых шляхоў адрозныя прасторы:
Нябёсаў сінь і бездараж глухая.
Ды кожны лёс сказаны на паўторы —
Адно з адным віе-пераплятае.

# Вераснёвае

Харашыня такая навакол,
Што пышаецца сэрца ўзлёту хвіляй,
І танчаць вераснёвы рок-н-рол
Кляны й каштаны між аўтамабіляў.
І ты таксама ўкружышся ў той рух,
Нібы дзяўчо з далёкіх успамінаў,
Калі красе пярэчыў капялюх
І не балела сэрца ад правінаў.

## Прастуда

Кашляла зорка ў нябёсах,
Зорка прастыла ў самоце
Ў сінім касмічным сумёце,
Кашаль адрэхваўся ў лёсах.

Бога маўклівай гасподы
Зорка была ахмістрыняй,
Мела ключы ад пагоды,
Снежнай загадвала скрыняй,

Толькі праз кашаль не дбала
Гэтую скрыню заперці...
Так і зіма не спяшала
Ў сонечных промнях памерці.

# Маўчанне

*Каля карціны Валерыя*
*Шкарубы «Пачатак дня»*

Фігуры
на белым снезе...
Ніз дрэў
утоплены ў святасць...

У гэтай белай
імпрэзе
маўчання
напятасць...

І сну-здранцвення
вярыгі,
і выбух
адлігі...

## Штодня

Штодня
рушыш
у свой шлях
дасканаласці.

Хочаш быць
добрым і справядлівым,
міласэрным
і споўненым любові.

Трэба змірыцца з тым,
што заўсёды знойдзецца
прычына
для пакаяння.

## Раптоўнае

На палатне твайго лёсу
што вышывае Бог
ніткамі срэбных маланак?

Хто прачытае пісьмо
зрокам,
што стыне ад ветру?

Сліва апошні свой ліст
скіне,
каб вытрываць сцюжу.

Думак нястройных рады
хутаеш
рыфм адамашкам...

# Ліхтарык

З кожным
заветраным ранкам
стыне
душа Лістападу...

Свечкі Задушныя
гаснуць...

Толькі ліловы ліхтарык
позняй
скукарчанай слівы
грэе яшчэ...

## Проста прагаварыць

Не думаць аб тым,
каму наканавана слава,
каму забыццё...

Не думаць аб тым,
каму быць апошнімі,
каму першымі...

Не наракаць,
не чыніць прысудаў,
проста дзякаваць за Жыццё!

Проста прагаварыць
свой лёс —
вершамі...

## Дарожніца

Любоў шукала прыгажосць,
Хоць ведала, што зман...
І той вандроўны ягамосць
Начэй маіх не пан.
І я не пані вечароў,
Дзе пышнай жарсці млосць,
Хоць я не ля святых дароў
Шукала прыгажосць.
Але малітва й знак крыжа
Мяне ў жыцці вялі,
Калі пужаў начы кажан,
Калі грахі зямлі
Мяне ланцужылі ў палон —
Салодкае ярмо...
Зямны, грахоўны плоці сон
І ява з ім адно.
Іду, дарожніца ў імгле,
Ружанец як ліхтар.
Той сон мой — тло, і я на тле,
І госць мой быў махляр.
Не знаю, што, каго знайду
І дзе канцовы шлях...
Абапіраецца
На дзён слату
Капліцы неба дах...

## Вераб'іная кавярня

Каля кавярні,
 на Прадмесці,
Сядзіць гуллівы верабейка.
Нагода добрая пад'есці:
Афіцыянтка-чарадзейка
Яму штось кінула са жмені...
Далоў галодныя цярпенні!
Дзяўбе ён жвава й самавіта,
А тут іду
 наўпрост
 праз стол
Ягоны...
Ён сярдзіта
Падскочыў з долу ды на дол.
І важнай пані
 збочыць трэба,
Бо што ёсць найважней абеда?!
І вераб'іная кавярня
Зноўку дзяўбе
Удзячна й жарна!

## Той самы Госць

З-за адсунутае фіранкі
зірнуў сумны
запознены
лістападаўскі дзень,

быццам здарожаны
Путнік,
што хоча зайсці
на гарбату пагрэцца,

але не ведае,
ці ўпусцяць Яго...

Адчыню сваё сэрца
на цэлую восень,
прыгатую стол...

А можа, гэта
той самы Госць
па дарозе
да Эмаус?..

## Голас

Пачуць Голас...
Голас, які кліча...
Кліча цябе і знікае,
не ўлоўлены ў сеціва
твайго чування...

Зноў паўтараецца рэхам,
бо кліча цябе ў маўчанні,
у сцішанні зорак,
ва ўтаймаванасці ветру...

Голас, які кліча цябе
з далёкіх стагоддзяў
і з блізкага сёння...
Голас Любові...
Пачуць...

# Адказ

Быць адказам,
адказам на Голас,
пачуты з глыбіні
прасторы і часу...

Той, хто кліча,
выбраў цябе
са свайго
анёльскага далявіду.

Паклікаў цябе
невымоўна,
каб ты пачуў
і адгукнуўся...
Нячуйная бездань
між намі.

Але нашы
маўклівыя галасы —
кліканне і адказ —
як пункціры
нябёсных сцяжын...

## У суботні дзень
*(Паводле аповеду айца Пятра)*

Дажджылася
цэлы тыдзень...
А ў суботні дзень
з-за хмары вынайшлася сонца!

Як быццам жвавы
жэўжык-анёльчык
вырашыў пабавіцца
з бліскучаю цацкай

і выкаціў сонца
проста
на нябёснае поле,
нібы гарэзлівы мячык...

Але мокрыя
белыя хмаркі
ніяк не хацелі
знікаць!

А людзі на зямлі казалі:
гэта Божая Маці
развесіла прасушыць
пялюшкі маленькага Езуса...

## Чаша

Я не ёсць цела,
а той, хто клапоціцца пра цела,
той, хто існуе ў чашы,
але не сама чаша,
той, каго можна выплеснуць,
і будзе жыць,
але чаша не будзе.

## Паэзія

Ты як зерне пяску,
у якім кропля дажджу
прарастае травінкай...

Як каліва неба,
у якім след упаўшай зоркі
пазначае ўсюдыіснасць шляху...

Як кавалак раллі,
не ўроблены летуценным
гаспадаром,

які сочыць прарастанне дажджу
і вандроўную зорку...
Паэзія...

## Удзячнасць

Табе, Найвышэйшы Божа,
Мая замалая ўдзячнасць
За шчодрую дарнасць збожжа,
За хлеба нябёснага смачнасць,

За шчасце зімовага снегу,
Пяшчоту вясновай руні,
За ласку прыйсці ў кругабегу
Жыцця да святой Камуніі.

Над марнасцю чалавечай
Льсніць тайная моц Аплатка...
І радасна так укленчыць
Прад яселькамі з Дзіцяткам...

# У Катэдры

Любові ў Хлеб уцелаўленне,
Баранак Божы раны коіць,
Святар дае благаслаўленне,
Гучыць: ідзіце ў супакоі...

Пасля Імшы ў малітве ціхай
Яшчэ раз кленчу і ў пакоры
Прашу аб развітанні з ліхам,
Страсаю крыўды і дакоры.

Блакітным покрывам Марыя
Мяне атульвае, здаецца,
І нішчацца грахі старыя,
«Вітай, Марыя», — з сэрца льецца...

Тут, у намоленай Святыні,
Душа свабодна ад растэркі.
Глядзяць з-пад купала святыя,
А прывід біскупа Дадэркі

Блукае, незаўважны, ў навах,
Благаслаўляе люд — тут новы,
Усцешны, што праз буры нават
Заўжды праменіць Шлях Хрыстовы!

## Гарчычнае зерне

Сам ідзеш і сам сыходзіш,
Хоць людзей і не бракуе,
І сяброў сабе знаходзіш,
І каханне зачаруе.

Сам сабе здаешся значным,
Дасягаеш спраў вяршыняў,
Пачастункаў прагнеш смачных,
А не хлебных акрашыняў.

Але час на гэту марнасць
Пакладзе сваю пячатку,
Лёс як служба, як ахвярнасць
Запануе ў дзён парадку.

Крыж цяжкі прыцісне плечы,
Але ж ён і твой ратунак:
Ён ад велічнасці лечыць,
Ад цяжкіх збаўляе думак...

Праз пакуты, праз цярпенні
Дух мой скруху пераможа.
Дай мне быць гарчычным зернем
На Тваёй далоні, Божа!

* * *

Вяртаюся зноў
у стракаты
нявыпіты жнівень,
дзе квецені водар
яшчэ чуецца
скошаным рэхам;
дзе дождж
яшчэ не прадзецца
нясмелым снегам;
і спець на галінцы
яшчэ дазволена
сліве...

*Францішак Багамолец*

# Курдаш*

Чарачкі ўзнімем, мой мілы Рыгору**,
Каб не паддацца ні смутку, ні гору.
Хай і Ганулька прысядзе тут з намі,
Курдаш над курдашамі!

Як толькі рукі бутэлькі даткнуцца,
Зараз жа ўгору і думкі памкнуцца,
Ну дык жа чаркі ўзнясем з віватамі,
Курдаш над курдашамі!

Хораша п’ецца! За цябе, мой дружа,
Каб нас ніякі злыдух не адужаў!
Хай адступае нуда з клопатамі,
Курдаш над курдашамі!

Гляньце, што з намі віно вырабляе,
Сэрца ў грудзях весяліцца жадае!
Пад стол жа чаркі — п’ем цяпер кубкамі,
Курдаш над курдашамі!

---

* Верш адрасаваны, паводле тытулу першадруку ў 1779 годзе, ягамосцю Рыгору Лышкевічу, прэзідэнту варшаўскаму, як адказ на ягонае прыслоўе «Kurdesz nad kurdeszami!», што ў даслоўным перакладзе з турэцкай мовы «Братка па-над братамі!». Мы ў нашым перакладзе вырашылі захаваць старасвецкі водар арыгіналу. У доме Рыгора Лышкевіча Францішак Багамолец быў штодзённым госцем.

** Рыгор — Рыгор Лышкевіч. Ганулька — жонка Рыгора. Мацей — Рыгораў сын.

І ты, Ганулька, Рыгорава жонка,
Давай весяліся, дому патронка!
Ды не ўхіляйся, жадай выпіць з намі!
Курдаш над курдашамі!

Ўжо па бутэльцы, няхай бочка стане!
Віват усім, хто ў донца ёй загляне!
Віват Мацею ды з таварышамі,
Курдаш над курдашамі!

Мацей не любіць віна, партачына,
Яму за ўсё мілейшая дзяўчына!
Дык дайма яму спакой, піймa ж самі,
Курдаш над курдашамі!

Адновім продкаў аблічча святое:
Прэч адсюль кубкі — начынне благое!
Па-старасвецку п’ем цяпер збанамі,
Курдаш над курдашамі!

Віно малаком для старых стаецца —
Знаеш то добра, дык хай табе п’ецца!
Хлысні ж, Рыгору, й гудзі з юнакамі,
Курдаш над курдашамі!

*Францішак Князьнін*

## Да вусоў

Аздоба твару, вусы з падкрутам,
Ваююць з вамі жанчыны ўпарта:
Смяюцца, бэсцяць, ліюць атруту
На знак, найлепшых рыцараў варты.

Калі палаш бараніў айчыну
І ведаў добра чужыя межы,
Вусы, як чар, зводзілі жанчыну —
Бажок кахання ў вусах паседжваў!

Калі ж парадам ішлі героі
І кожны твар быў пакрыты славай,
Марына з Басяй песцілі мроі:
«За вус той чорны жыццё аддала б!»

Калі Чарнецкі праславіў зброяй
Айчынны край, які вораг змучваў,
Вяльбілі полькі ўсе тут героя,
А ён тым часам вусы падкручваў.

Калі Ян Трэці вызваліў Вену,
Між немак голас прайшоў трывожны:
«Кароль то польскі, а прыгажэнны!
Збавіцель наш! Пры вусах вяльможных!»

Цяпер бракуе тых спраў выбітных,
І Ніцы брыдкім вусач здаецца,
Бо з ёй Дорант, да гарэлкі спрытны:
З вусоў і з рыцараў ён смяецца...

Хай нехта край прадае чужынцам,
На іх прысмакі вядзецца зманна...
Яшчэ паляк я! І маю прынцып —
Вусы свае падкручу старанна!

*Францішак Карпінскі*

## Сяброўская песня пры келіху

Хай хтось аб золаце дбае,
Ёсць нешта большае ў свеце.
Скарбаў сабе не жадаю —
Цнота й сяброўства, жывеце!

Тут нашы думкі мяшаем
У найхмяльнейшым напою.
Сэрца адно мы складаем,
Ёсць бо адной мы душою.

Чуемся ўзнёсла і гожа.
Злюбімся ж — першая рада!
Шчырасць усё пераможа!
Ўпрочкі адыдзецца звада.

Знікнуць сумненні і звягі,
Рукі нам дружба лучыніць.
Нашы святыя прысягі
Смерць хіба толькі прыпыніць.

*Ян Чачот*

## Верш, напісаны з выпадку загаду галіць вусы кандыдатам настаўніцкага стану, выданага кіраўніцтвам універсітэта ў 1819 годзе

О, вусе, мой дружа любы,
Мужчынскага твару гонар,
Не ўсцеражэшся ад згубы
Ты, не ўстаіш перад сконам.

Радай высокаю школьнай
Выдан загад недарэчны —
Знішчыць жалезам няўмольна
Дар, ад прыроды спрадвечны.

Выгнанец з уласных гоняў,
Дзе ж знойдзеш прытулак, братка,
Калі цябе нават гоняць
Былых ваяроў нашчадкі?

Не любяць, каб ты кусціўся,
Шыкоўны, дваісты, ладны,
Каб свет на цябе дзівіўся:
Вось гэты — паляк сапраўдны!

Услед кунтушам на мукі
Ідзеш, каб не знаць нам зроду,
Чые мы сыны і ўнукі,
Якой мы крыві і роду?..

Баяцца, каб нашым здзерцам
Сам бляск вусоў і кунтушаў
Не зраніў каменных сэрцаў,
Без шабляў не вырваў душаў!

Забараняюць нябачна,
Каб моладзь хутчэй змадзела...
Бо продак-ваяр быў значны,
І погань прад ім трымцела!

Бядак ты! А быў не гэны
Ты, вусе, ў часіны Янаў!
Ты выбавіў мужна Вену
Ад полчышчаў басурманаў!

Тады быў ты пешчан дбайна,
Змагаў чужакоў навалы,
Закручаны, чорны, файны,
Быў вус нібы мур трывалы!

Цяпер жа, як куцы певень,
Стаіш адзін сярод фракаў,
І на'т не ўсміхнешся дзеве
Між гэткіх жа небаракаў.

Цябе праганяюць, вусе,
З радзімых палёў і з твараў,
І сэрца шчыміць у скрусе,
Што рыцар стае няздарай.

У школе цяпер нязручны,
Ты годна ідзеш на мукі,
Бо зрок зацямняеш вучням,
Што ўпарта грызуць навукі.

Так лічаць у школьнай радзе,
Й нашчадкі былых герояў
Паддацца мусяць той здрадзе,
Пазбыцца свабодных мрояў.

Гоняць цябе, вусе мілы!
Ты ж сэрцу — як сон салодкі!
О, каб жа з сваіх магілаў
Паўсталі на момант продкі!

Прыйшлі б на абшар дзядзінны,
Дзе кроў сваю пралівалі,
Ў спадзеве, што край — шчацінны,
Дый нас жа і не пазналі!

О, сорам жа нам, ліцвіны!
О, сорам, браты-палякі,
Што вус мы згаліць павінны
Й насіць не свае апранахі.

Дакуль нам бажышчам будзе
Балван чужога звычаю?
Калі ж мы сваё здабудзем —
Вусы, кунтуш і быт краю?!

*Адам Міцкевіч*

# Гімн на дзень Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі

Паклон Прачыстай!
Дзянніцай
Твар у нябёсах Твой ззяе,
Зоркамі Твой вянок асвятляе
Езуса на правіцы.

Верныя дня прычакалі святога,
З’явіся між намі ў Касцёле!
Дзеці Твае, мы кленчым на доле,
Вось жа між чэрні страху нямога
Прарок паўстае з Боскай волі.
І кажа: арганам жадаў Цябе
ўславіць,
Ды з Боства ідзе толькі Боскае
гранне.
З’явіся між намі ў Касцёле!
Свой позірк анёльскі як злітаванне
Пашлі, хай дух мой запаліць,
Голас напоўніць Боскім гучаннем.

І грымну грудзьмі, каб дрыжалі,
Што свету ідзе скананне,
І тло ўсё пад гэтае гранне
Прарве небыцця аблогу.
А гэта Ты ў Тваёй хвале,
Дзе пекла, дзе зоркі свецяць,
Вястуеш бясконцасць у свеце
І вечнасці перамогу!

— А хто ж там на Сыён узыходзіць,
атрасаючы хмару? —
Як ранак з марской купелі,
Як дзянніца, Марыя з твару;
Снежнасць аблокаў яму пасуе,
Сонца смугою золата сцеле
Свае адбіткі па нерушнай белі,
Павеўнасць косаў чаруе.

Сябе ўпадабаў у Яе аблічча
Сын Божы;
Раскалолася неба ў імгненне,
Галубкі белай з'яўленне,
І над Сыёнам крылаў суплёт
прыгожы:
Срабрыстым пер'ем убраны
Вянок для Нябёснай Панны.

Гром, бліскавіца!
Станься смела:
Маці-Дзявіца,
Бог-Цела!

*Уладзіслаў Сыракомля*

# Гімн да Найсвяцейшай Панны ў Вострай Браме

Маці, Ты клічаш маліцца
Нас у няздарнасці горкай.
Ты над ліцвінскай сталіцай
Свецішся ранішняй зоркай.
Глянь на натоўп, што ўтрапёна
Хоча абраз Твой прывецiць.
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці!

Неба высокага Пані!
Глянь на наш род чалавечы:
Сэрцы нам смутак параніў,
Хто нашы сэрцы палечыць?
Хто нас пяшчотай агорне
Найласкавейшай на свеце?
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці.

Кожны, хто хворы, бяздольны,
Аб Тваёй літасці моліць,
Хто ж нас прытуліць спатольна,
Хто нашы раны загоіць?
Ласка Твая — цуд натхнёны —
Гойным бальзамам ліецца.
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці.

Грэшныя, ў путах падману
І неспатольнае смагі,
Ўзняць свае вочы на Панну
Нават не маем адвагі.
Дай нам надзею ў палоне,
Выблытай з грэшнае сеці.
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці.

Цісне калі нас хвароба,
Сына Ты ўпрошвай зычліва,
Благаславі земляроба,
Благаславі плён на нівах,
Благаславі край наш родны
І апрані яго ў квецень!
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці.

Матчына ласка без меры
Ежай стаецца галодным:
Бедныя сем'і па веры
Просяць аб хлебе штодзённым.
Здольная ў зорнай кароне
Ўсіх у патрэбе прыкмеціць,
Маці! Тваёй абароне
Мы аддаемся, як дзеці.

## Ды найлепшыя сарматкі

Дзеткі мілыя, зважайце,
Покуль сэрцы расцвітаюць,
З вочак прэч тугу змятайце,
Твары хай усмешкай ззяюць.

Вось дзяўчынка, ўбрана ў квецень,
Каля годнай крочыць маткі...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

Час мінае, і паненка
Ўжо шаснаццаць вёснаў мае,
З густам шыецца сукенка,
І ўжо некага кахае.
Дасягнула паўналецця,
Толькі з любым прагне хаткі...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

Ўсё вакол сябе атуліць
Харαством, каханнем, цнотай,
Бацьку, маці прыгалубіць
І разлучыць іх з маркотай.
Хто хоць раз яе прыкмеціць,
Захавае ў сэрцы згадкі...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

Мужу ў справах спагадае,
Падтрымае ліхалеццем,
Перадасць любоў да краю
З малаком уласным дзецям.
Гаспадарна будзе весці
Ў доме мужа лад-парадкі...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

Ці то ў радасці, ці ў горы,
Не злятае думкай з неба,

Падарожнага прыгорне,
Жабраку адкроіць хлеба,
Госця ў шчырасці прывеціць,
З бліжнім дзеліцца дастаткам...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Не раўня яны сарматкам.

Як надыдзе ўзрост паважны,
Шчыра моліцца ў касцёле,
Рукі пацерамі вяжа,
Крыжам сцелецца на доле.
За дзяцей, за ўнукаў просіць,
За спакой усёй грамадкі...
Хоць кабет на свеце досыць,
Ды найлепшыя сарматкі.

## Званы для глухіх

*Да ...**

Званы для глухіх званілі і звоняць,
А тыя таўкуцца ў вечнай марноце...
Званоў не чуюць, а прарокаў гоняць!
Хоць бы святар ім гаворыць аб цноце,
Хоць бы мудрэц іх сівы настаўляе,
Для іх значэння той голас не мае.

Ды міласэрнаць Бога — ў выпраўленні,
А не ў пакаранні грэшнага людства.
Таму прарока ў кожным пакаленні
Бог зноў шукае, каб той не акруцтва,

---

* Верш адрасаваны Габрыэлі з Гюнтэраў Пузыні.

А покліч братні слаў для навяртання,
Каб адбылося цуда пакаяння.

Званы для глухіх... Той благаслаўлёны,
Каму Бог рэхам сваім стаць дазволіў:
Званіць для сонных, будзіць утрапёных
І самалюбных, і людзей злой волі,
Разбіць у сферах, варожых бясконца,
Ліхія хмары, што засцяць нам сонца.

У дабраслаўнай зямлі Палямона,
Ў шэрагах рыцараў слова і песні,
Вітай нам, святарка, вітай натхнёна,
Бог твае спевы ўратуе ад плесні,
А Беларусь* табе сэрцам аддзячыць:
І глухі пачуе, сляпы пабачыць.

* У арыгінале — Літва.

*Габрыэля Пузыня*

## Алелюя

Дзень вясёлы наступае —
Збаўцу чалавек вітае,
Вясна ў душах зацвітае!
Алелюя!
Смутак нішчыцца імкліва,
І глядзіць з-пад снегу ніва,
Грэх знікае палахліва.
Алелюя!
З гэтай велічнай нагоды
З гор плывуць патокам воды,
З вачэй — слёзы асалоды!
Алелюя!
Езус пекла парваў путы,
Грэх адолеў жаль пакуты,
Свет у зелень апрануты.
Алелюя!
Маці, боль Твой адыходзіць:
Хрыстус-Сын з труны выходзіць,
Спеў анёльскі слых лагодзіць —
Алелюя!
Покуль шлях зямны наш тчэцца,
Хай ён з цернямі спляцецца
І ў вышыні ўпарта мкнецца.
Алелюя!
Калі ж Неба годны станем,
Разам з мёртвых усе ўстанем,
Зноў спяваць не перастанем —
Алелюя!

## Зярнятам сланечнікаў, прызначаным для алею ў Касцёле

У сланечніка ёсць тайна,
Што за лёс яго спаткае:
Можа, выспелены дбайна,
Ён свячою запалае?

Можа, вернецца ў зямліцу
Па вясне ізноў насеннем,
Каб на момант адрадзіцца
Новым сонцам-летуценнем?

Дык зірні ж — святыню гожа
Асвятляе бляск праменняў:
Быць іскрою ў доме Божым
Лепш, чым сонцам у стварэння!

## Старыя ліпы

Старыя ліпы, роднае карэнне,
Буслянкі ў кронах, салаўёў прыстанак...
Згадаю вас — і будзіцца натхненне,
І паўстае ўспамінам даўнім ранак.

Я бачу продкаў дужыя рамёны,
Суровасць быту, прастату паводзін,
Стары ў кунтушы словам пранікнёным,
Нібы стылом, па сэрцы маім водзіць.

А тыя ліпы — дзве, дый цэлым гаем!
Як зменна ўсё! Як зманна ўсё ў сусвеце!
Былі даўней мы тут свабодным краем,
Цяпер і словам родным не прывецім...

Пякельны смутак! Даўнімі часамі
Яго перамагалі мужнасць, вера.
І вораг адступаў! Крывёй, слязамі
Сцяліўся шлях тутэйшага жаўнера.

Бог верным сілы слаў і перамогу,
У слабасці ўзнімаў дух у вышыні.
Цяпер малітвы мы, нашчадкі, Богу
Пакорна шлем, і Бог нас не пакіне!

Пакуль у сэрцы тхніць прамень любові,
Старыя ліпы ў неба мкнуць галіны,
Што ж сумнявацца, што вясна адновіць
Радзімы край, як і чарод бусліны!..

## Песня ратая

Я не ведаю сумненняў,
Ці зямелька дасць мне хлеба?
Штогод смела жмені зерняў
Сыплю пад апеку Неба!

А рукой маёй кіруе,
Як заўсёды, палец Божы:
Ён ад холаду ўратуе,
Пад зямлёю іх размножыць.

І плывуць дажджы ды росы
На маю раллю ў спакоі.
Каласы ўстаюць — калосы!
Божа! Дзякую за тое!

А калі вясна ўзарае
Год няплодны, неўраджайны, —
Значыць, Бог мяне карае,
Што я ў веры быў нядбайны.

Бог — наш Бацька, Ён ніколі
Не пакіне небараку,
Цуды ўчыніць, дасць паталі,
Абы склалі мы падзяку!

## Васількі

Радасна, шчыра я ў полі вітала
Той васілёк, што спаткала найпершым!
У малітоўнік яго я схавала,
Каб на жніво ўдаўся колас найлепшым!

Вось па жніве ўжо! Чаму ж на хвіліну
Сум агарнуў? Зрэшты ж, люд не галодны!
Ах, бо знайшла васілёк-сірацiну,
Дык жа туды йдзі, дзе ты першародны.

Прагна вясною мы лета чакаем.
Калі ж надыдзе часіна ўраджаю,
Калі й жыцця мы жніво ўжо спазнаем,
Хто ж васілёк той успомніць-згадае?..

## Да пана Яна Карловіча

*Водар грання*

Зноў цябе чуем, пачуем і з неба —
Ўсе прыказанні ты граннем спаўняеш:
Бліжняга любіш, даеш яму хлеба,
Сэрца ж — крыніцаю! Бога ў ім маеш.

Люба нам грання твайго слухаць тоны,
Люба, бо ўзносіць яно нас натхнёна.
Чуласць узрушвае гэтае гранне,
Значыць, ёсць *літасць** у ім, спачуванне.

Залы пустой ты не бачыш ніколі,
Не наракаеш на холад нядолі.
Апладысменты — жаданая ўцеха,
Бо ў іх гучыць табе вечнасці рэха.

---

* Знай, што хацела напісаць «ludzkość» («людзкасць»), але ў цяперашніх далікатных акалічнасцях баялася цябе і сябе падвергнуць <...> (заўвага Габрыэлі Пузыні; у рукапісе апошняе слова нечытэльнае).

## Да Тамаша Зана

**1**

Хто бесклапотнасць часоў дзіцячых
Мог учыніць для іншых узорам?
Хто маладыя сэрцы гарачыя
Вёў за сабой да вышынь, да зораў?

**Хор**

Прыкладны Містру! Шлем табе чэсць!

**2**

Хто за парывы чыстыя сэрца
Не ўзнагароду меў — пакаранне,
Мусіў паехаць, на загад здзерцаў,
У край далёкі, на занядбанне?!

**Хор**

Бедны выгнанец! Шлем табе чэсць!

**3**

Хто, прад судом не меўшы правіны,
Зноў вярнуўся да родных парогаў?
Літва сустрэла шчасліва сына,
Вучоны свет — брата дарагога!

**Хор**

О, светлы Мужу! Шлем табе чэсць!

**4**

Хто ж ідэал жанчыны ствараe
Спеўнае ліры чароўным граннем?
А тых, хто чуе, спеў навучае
Любіць высока і жыць каханнем?

**Хор**

Чулы Паэце! Шлем табе чэсць!

**5**

Хто, пераждыўшы зманы ды страты,
Сэрца сваё збярог ад здранцвення?
Хто ў непрыяцелю бачыць брата
І за Хрыстом ідзе да Збаўлення?

**Хор**

Чыстае Сэрца! Шлем табе чэсць!

*Зоф'я Манькоўская*

# Сасна

## I

Расце ў прыбярэжным лесе сасна старая,
Вячыста, высока ў неба сягае кронай,
Калісьці малы таварыш між моцных краю,
Цяпер жа, калі палеглі яны скарона

Пад часу рукой няўмольнай, яна трымае
Дух волатаў даўніх тут, мае від патрона
І апякуе сабой маладое грона,
І пілігрыма пад свой балдахін прымае.

Што ж каралеве дрэў маладзіковай ноччу
Сніцца праз тоўшчу год над самотным абшарам?
Княскія ловы?.. Гон! Спуджаны дзік тупоча,

Брэх расцвеленых псоў, енк узятай ахвяры...
Потым ціша ізноў, чуць, як рака булькоча,
Хор пушчанскі шуміць, ткуцца ў галінах мары.

## II

Скажы, старая ты нянька княжацкіх ловаў,
Ці ў тваім голлі шумяць мінулага чары?
Ці заблукалі там ціхай малітвы словы,
Каб адышлі зямныя пакуты і кары?

Часам здаецца мне, што звіняць там падковы,
Славу геройскіх бітваў вястуюць фанфары;
Потым ізноў вуха чуе гук нейкі новы,
Быццам званоў на Вялікдзень голас у Фары.

Можа, то спевы нянькі? Ці жалейка грае
Зараз народныя песні старой сасною,
Рэхам тужлівых нот памяць нам абуджае?

А можа, то спеў пяснярскі, які сабою
Прарочыць будучы дзень, шчаслівы для краю?
Шумі ж, о сястра-сасна, гавары са мною!

## III

Сасна-старажылка, мы з табой небаракі,
Цяпер аднолькавым смуткам-тугою скуты:
У даль глядзім, дзе няяснага заўтра знакі,
Сёння ж, як Юда-прарок, скрозь церпім пакуты.

Ведаем, што не для нашых вуснаў прысмакі,
Як і ласкавы спеў чарналескае лютні;
Што іншым спажытак увесь, нам жа ніякі,
Што як вольна ўздыхнем, зноў нам накінуць
путы.

Пусткамі навакол выглядаюць даліны,
Ссечаных пушчаў глухіх галеюць абшары,
Ёсць толькі вера ў нас як ратунак адзіны:

Доўга за зоркаю Магі йшлі праз папары —
Праўды шукаць. І знайшлі святло сваёй мары.
Кіньма ж сумненні і мы! Шуміце, галіны!

# Змест

## Кірмаш трубадураў



## Вінагроздзя кахання

**Яснавяльможныя госці**



**Той самы Госць**

**Багдановіч, І.**

Б14 Душа лістападу : вершы, пераклады / Ірына Багдановіч. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 100 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 28).

ISBN 978-985-7007-81-3.

У новай кнізе вершаў Ірыны Багдановіч — паэтычны роздум аўтара аб сутнасці творчасці і чалавечага быцця ў няпростым і зменлівым часе, аб тых вечных духоўных арыенцірах, якія задаюць высокі нябёсны вектар зямному чалавечаму існаванню, аб незгасальных патрыятычных ідэалах, што асвячаюць сувязь чалавека з роднай зямлёй і яе гісторыяй. Вядучыя матывы кнігі дапаўняе адмысловы раздзел перакладаў «Старапольскае рэха Беларусі», які складаюць творы знакамітых аўтараў беларуска-польскага культурнага памежжа канца XVIII – XIX стагоддзяў, знакавыя ў сваім часе і актуальныя для разумення культурнай поліфанічнасці айчыннай літаратуры азначанага перыяду.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64 (4 Беи)-5**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 28

**Багдановіч** Ірына Эрнэстаўна

**ДУША ЛІСТАПАДУ**

*Вершы, пераклады*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактары *А. Пашкевіч, Б. Пятровіч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *В. Андрэева*

Падпісана да друку 11.07.2012. Фармат 80x100 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 4,63.
Ул.-выд. арк. 2,22. Наклад 300 ас. Зак. 487.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.